№ 169 (751)

Аўторак, 14 верасня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., па падпісцы — 11000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



## Послание Шарецкого в Ялту

Как известно, в Ялте состоялась международная конференция "Балто-Черноморское сотрудничество: к интегрированной Европе XXI века без разделительных линий", в которой приняли участие президенты всех стран Черноморско-Балтийского региона. Кроме Лукашенко. Против его участия высказались руководители многих государств.

В связи с этим важным событием в Ялту направил приветственную телеграмму председатель Верховного Совета Республики Беларусь Семен Шарецкий. Он высказал сожаление, что в связи с политической обстановкой в Республике Беларусь демократически избранные представители Беларуси не имели возможности участвовать в дискуссиях об уничтожении разделительных линий в Европе. Хотя обсуждаемые на конференции вопросы важны и для Беларуси, она является неотъемлемой частью Балто-Черноморского региона.

Шарецкий поблагодарил также президента Украины Леонида Кучму за инициативу по развитию сотрудничества стран Балто-Черноморского региона.

## Напрыканцы верасня Мінск наведаюць прадстаўнікі Еўраструктур

Як стала вядома БелаПАН з кампетэнтнай крыніцы, 28 верасня ў Мінск павінна прыбыць дэлегацыя Еўрасаюза, у склад якой увойдуць прадстаўнікі Фінляндыі — краіны, якая цяпер старшынствуе ў ЕС, Партугаліі — будучага старшыні Еўрасаюза, а таксама Еўрапейскай камісіі ЕС.

Мэта візіту — вывучэнне палітычнай сітуацыі ў краіне. Асобую цікавасць у прадстаўнікоў еўраструктур выклікае дыялог, які павінны пачацца паміж урадам і палітычнай апазіцыяй Беларусі. У гэтай сувязі яны маюць намер сустрэцца як з прадстаўнікамі афіцыйных улад, так і апазіцыі.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Нягледзячы на значнае павышэнне цэн на нафтапрадукты, на беларускіх АЗС захоўваецца іхні дэфіцыт

Праблема з наяўнасцю нафтапрадуктаў на АЗС у Беларусі застаецца вострай. Паводле слоў інфармацыйнай крыніцы ва ўрадзе, захады, што прымаюцца кіраўніцтвам Беларусі па стабілізацыі сітуацыі на рынку нафтапрадуктаў, дазваляюць "вырашаць праблему толькі лакальна". Прычым, сітуацыю не змяніла нават значнае павышэнне цэн на нафтапрадукты ў сярэдзіне жніўня і напачатку верасня. Больш таго, ужо з пачатку верасня калгасы і саўгасы краіны не могуць купіць аўтабензін А-76 у прадпрыемстваў нафтапрадуктазабеспячэння канцэрна "Белнафтахім".

Асноўнай прычынай дэфіцыту нафтапрадуктаў, як лічаць незалежныя эксперты, з'яўляецца адсутнасць валютных сродкаў у канцэрна "Белнафтахім" на закупку расійскай нафты, цана якой вырасла ў параўнанні з першым кварталам 1999 года больш чым у два разы і складае больш за 100 долараў ЗША за тону. Толькі з-за гэтага аб'ёмы закупкі канцэрнам нафты скараціліся з 560 тыс. тон у лютым 1999 года да 212 тыс. тон у ліпені.

Акрамя таго, ускладненне сітуацыі з нафтапрадуктамі звязана з тым, што ў першым паўгоддзі камерцыйным структурам, якія перапрацоўваюць нафту на беларускіх НПЗ, дазваляўся 100-працэнтны вываз выпрацаваных нафтапрадуктаў на экспарт. Гэта дазволіла загрузіць магутнасць нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў і павысіць прывабнасць рынку нафтаперапрацоўкі, але разам з тым прывяло да пагаршэння сітуацыі на ўнутраным рынку нафтапрадуктаў у другім квартале бягучага года. Не была аператыўна перабудавана і праца з уладальнікамі нафты на прадмет рэалізацыі імі часткі нафтапрадуктаў для патрэб краіны.

Паводле ацэнак спецыялістаў Міністэрства эканомікі, для нармальнага функцыянавання народнай гаспадаркі ў трэцім квартале 1999 года на Наваполацкім і Мазырскім нафтаперапрацоўчых заводах неабходна перапрацаваць каля 3 млн. тон вуглевадароднай сыравіны, для чаго спатрэбіцца каля 150 мільёнаў долараў ЗША.

**Яўген ГРУБІЧ.**

## Конституционные гарантии гарантиями не являются

Опубликован очередной "высочайший указ", посягающий на гарантированную Конституцией (статья 35) свободу собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетирования. И хотя называется этот акт "О некоторых мерах по предупреждению чрезвычайных происшествий при проведении массовых мероприятий", Декрет N36, как и его предшественник — Декрет N5 — новая попытка режима силовыми методами утихомирить все возрастающее недовольство народа.

В цивилизованном мире политические конфликты разрешаются цивилизованными методами — досрочными выборами. Белорусские же власти, исчерпавшие к 1999 году кредит доверия у народа, намерены конфликты, стало быть, разрешать дубинками, штрафами и арестами.

Судя по всему, белорусский режим к принятию очередного декрета о наступлении на конституционные права граждан подтолкнула политическая ситуация в Югославии, где количество выступающих против С.Милошевича исчисляется многими десятками тысяч.

Только страхом увидеть на центральных улицах белорусской столицы сотни тысяч недовольных избирателей можно объяснить пункт 1.2 Декрета N36 о запрещении проведения политических акций на расстоянии менее 200 метров от подземных пешеходных переходов (под этот пункт подпадают очень многие центральные улицы Минска и областных центров).

Только страхом перед недееспособностью созданной "вертикали" можно объяснить пункт 1.3 декрета N36, требующий от председателей исполкомов согласовывать с республиканскими органами государственного управления санкции, даваемые на проведение политических акций.

Полагаю, что на основании этого нового декрета власти запретят профсоюзам движение 30 сентября с.г. колонн рабочих по проспектам Скорины, Машерова, Партизанскому...

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

Стоп-кадр

Беларусік.

## Так кто же теперь Семен Шарецкий?

### Этот вопрос был основным в беседе журналиста Владимира Глода с известным белорусским юристом Михаилом Пастуховым

*21 июля после заседания Верховного Совета Беларуси 13-го созыва его председатель Семен Шарецкий покинул Беларусь и временно "обустроился" в Литве. Это произошло на следующий день после того, как истек пятилетний срок пребывания на посту президента страны Александра Лукашенко. Естественно, возникает вопрос о нынешнем статусе Семена Шарецкого.*

*В СМИ, в том числе и негосударственных, высказываются самые разные мнения. Одни, к примеру, уверены, что Семен Георгиевич, если руководствоваться Конституцией, уже стал новым президентом Беларуси; другие полагают, что он остается председателем Верховного Совета; третьи называют его беглецом, который, опасаясь нынешних белорусских властей, вынужден покинуть Родину...*

*Но прежде чем задавать главный вопрос Михаилу Пастухову — доктору юридических наук, профессору, — интересуюсь у собеседника:*

**— Михаил Иванович, Вы побывали в Вильнюсе, где встречались с Шарецким. О чем, если не секрет, вы беседовали?**

— Поскольку меня назначили руководителем экспертной группы на консультациях под эгидой ОБСЕ о доступе оппозиции к государственным средствам массовой информации, то вначале я рассказал Шерецкому о том, как прошла первая встреча.

**— И какова была его реакция?**

— Семен Георгиевич позитивно относится к самой идее переговоров между властью и оппозицией. Однако он не обольщается. По мнению Шарецкого, Лукашенко будет стремиться использовать переговорный процесс только для одной цели — легитимизировать государственный переворот ноября 1996 года и созданный после этого режим. Семен Георгиевич показал мне имеющуюся у него копию распоряжения за подписью А.Лукашенко от 6 августа 1999 года "О создании рабочей группы для проведения консультаций с политическими партиями и иными общественными объединениями".

В нем есть, как минимум, три примечательных обстоятельства. Во-первых, в документе речь идет только о консультациях. Но "консультации" и "переговоры" — слишком разные понятия. Консультации, по большому счету, ни к чему не обязывают. Во-вторых, данные консультации А.Лукашенко собирается проводить не с легитимным органом — Верховным Советом, а с широким кругом партий и иных общественных объединений. Поскольку этот круг нигде и никем не очерчен, то и разговор будет беспредметным и безрезультатным. В-третьих, цель консультаций официальной стороне видится только в совершенствовании избирательного законодательства. А ведь все понимают, что надо выходить далеко за рамки этой темы и искать пути выхода из кризиса, в котором оказалась наша страна.

Думается, не случайно на документе, копию которого передал мне Семен Георгиевич, стоит гриф "не для печати". Это означает, что власть боится гласности. Получается, что ее представители на людях говорят одно, а делают другое. Они пытаются убедить ОБСЕ и другие международные организации в серьезности своих намерений и в то же время издают документ, из которого отчетливо видны их истинные цели. На это обратил внимание Шарецкий и просил делегацию от оппозиции не поддаваться на уловки властей.

(Окончание на 2-й стр.)

Абсурд

## "Эта "бэнээфовка" говорит на своей "мове", тем самым оскорбляя меня..."

... Я лячыўся ў шпіталі для інвалідаў Айчынай вайны. Палата на дваіх. Сусед, падпалкоўнік запасу, — ветлівы, уважлівы. Служыў больш за 35 гадоў, з іх палову — у Беларусі. Службу закончыў у Оршы яшчэ на пачатку 60-х. Больш за пятнаццаць гадоў працаваў у арганізацыі Грамадзянскай абароны, таварыстве "Выратаванне на водах".

Мы многа хадзілі разам па лесе, размаўлялі. Усё ішло добра, мы жылі дружна, згодна. Але аднойчы я ад яго пачуў: "Как я ненавижу этот белорусский язык!". Мяне гэта вельмі здзівіла. Я спытаў, у чым прычына такой нянавісці.

— А зачем он вообще нужен? — адказаў ён пытаннем на пытанне.

Размова скончылася. А я ўсё думаў: адкуль такі шавінізм у чалавека, які больш паловы свайго жыцця пражыў у Беларусі? Ну не вучы ты гэтую мову, калі не хочаш, але чаму яе так ненавідзець?

Адказ між тым ляжыць на паверхні. На працягу двух вякоў Беларусь з'яўлялася "Северо-Западным краем" Расіі. Ёй не дазволена было мець нават сваю назву. У сталінскія часы па абвінавачанні ў "нацдэмаўшчыне" была знішчана амаль уся беларуская інтэлігенцыя. Засталіся ў асноўным манкурты-стукачы ды запалоханыя "таleранты".

Зараз яны не саромеюцца "выказвацца" ўслых — надта прыдатная для гэтага атмасфера. Вось што гаворыць адзін такі "мовавед" з-пад Слуцка: "Кому он нужен, этот белорусский язык? Только писателям, которых никто не хочет читать". Калі так гаворыць "адукаваны" беларус, то што патрабаваць ад палкоўнікаў, якія ніколі не ведалі беларускай мовы? Нямала сярод іх такіх, хто выбраў Беларусь як цёплае, зручнае, утульнае месцейка для сваёй службы і жыцця. Ім падабаюцца беларускі хлеб, сала. А асабліва — памяркоўныя людзі, якіх можна абражаць, пляваць на іх культуру, гісторыю, мову. Нават — у твар. А тыя будуць дзякаваць, ласкава ўсміхацца, кланяцца ў адказ.

Чаго чакаць і ад прэзідэнта, які, відавочна, ніколі не чуў матчынай песні, калыханкі ці казак на беларускай мове? Памятаеце яго безапеляцыйнае: "На белорусском языке нельзя выразить ничего великого". Свае мудрыя прамовы ён гаворыць "на чыстам рускам языке". А калі адзін ці два разы яму склалі тэкст па-беларуску, то не толькі цяжка было слухаць, але і глядзець. Чытальнік увесь абліты потам і чытае так, як быццам толькі што прыехаў з якой-небудзь Замбіі ці калмыцкіх стэпаў...

Не апошнюю ролю ў русіфікатарстве беларускага насельніцтва адыгрывае Руская праваслаўная царква. Яна не толькі не праводзіць богаслужэнні ў абсалютнай большасці цэркваў і сабораў Беларусі на роднай мове карэннага народа, але і ставіцца да яе з пагардай. На пытанне аднаго з вернікаў-беларусаў у Гродзенскім праваслаўным саборы "Чаму не вядуцца казанні на беларускай мове?" быў адказ: "Никакого белорусского языка нет. Есть испорченный русский язык, диалект".

Мы ўжо не гаворым аб тым, што ў гарадах і пасёлках краіны не засталося ніводнай беларускай школы, што ўся дакументацыя і нават калгасныя сходы вядуцца толькі на рускай мове.

Што ж тады патрабаваць ад палкоўнікаў накшталт Замяталіна ці Посахава, якія і чуць не жадаюць беларускага слова. Для іх гэта мова "тубыльцаў", адсталых "тутэйшых". На жаль, такія людзі у нас пастаўлены кіраваць культурай народа, выхоўваць яго. Выхаваць яны могуць хіба што "хунвэйбінаў" без роду і племені, кар'ерыстаў са спустошанай душою.

І такое выхаванне вядзецца не толькі ў арміі, а паўсюдна і штодзённа. Калі хто загаворыць зараз на беларускай мове ў тралейбусе, аўтобусе, а асабліва — у шпіталі інвалідаў вайны ў Бараўлянах, то адразу пачуе: "бэнэфавец", "пазьняковец" (нібы беларускую мову "прыдумаў" Пазьняк). Помню, як у санаторыі "Лётцы", што на Віцебшчыне, адна партыйная дама прыбегла да галоўнага ўрача са скаргай, што ў яе палату пасялілі "бэнээфаўку", якая "говорит на своей "мове", тем самым оскорбляя меня".

І такое на роднай нашай зямлі! У Латвіі ці Літве, а тым больш у Грузіі ці Эстоніі такую шавіністку выгналі б з санаторыя, а тут "бэнээфаўку" перавялі ў іншы пакой, каб яна не "портила настроение" партыйнай даме.

А ўсё ідзе зверху. Рыба гніе з галавы. Калі "галава" не жадае і не ўмее гаварыць на дзяржаўнай мове тытульнай нацыі, то за ёй цягнецца і "хвост" — тая ж дама ці які-небудзь зацыклены палкоўнік упэўнены, што паўстанне Кастуся Каліноўскага было "инспирировано" американскими империалистами" на чале з ЦРУ.

**Дзям'ян АЛЯХНОВІЧ.**
**Мінск.**

Стоп-кадр

Владимир Хилько, бывший глава Сбербанка, обещает обжаловать вынесенный ему приговор — 3,5 года строгого режима — в зале судебных заседаний Фрунзенского райсуда г.Минска.

Фото IREX/ProMedia.

Пр. Марфы, Сямёна.
К. УЗВІЖАННЕ (Узвышэнне Крыжа Святога), Бярнарда, Цыпрыяна.

ВЕРАСЕНЬ
14
'99 АЎТОРАК

Усход 6.40
Заход 19.28
Даўж. дня 12.48

Перш. квадра 17 верасня
Усход 12.37
Заход 22.22

Крымінал

## У кватэры аднаго з гамяльчан знайшлі ўзрыўчатку

14,9 кг тратылу — рэчыва, што прымяняецца ў ваеннай прамысловасці для дэтанацыі буйных снарадаў, — знойдзена праваахоўнымі органамі Гомеля ў кватэры аднаго з гамяльчан, які пражывае ў самым цэнтры горада. Мужчына затрыманы як падазраваемы ў незаконным захоўванні выбуховых рэчываў.

Як паведамілі ў міліцыі, ён адмаўляе, што ўзрыўчатка належала яму. Аднак праваахоўныя органы пакуль не выказваюць свае меркаванні аб магчымым паходжанні і прымяненні дадзенага запасу тратылу. Не выключана, што ён быў скрадзены з якога-небудзь ваеннага аб'екту ўзброеных сіл СССР, якіх яшчэ ў нядаўнім мінулым было багата на тэрыторыі Гомельскай вобласці.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Да канца 1999 года ў Швецыі і Венгрыі плануецца адкрыццё беларускіх пасольстваў

У адпаведнасці з праграмай развіцця сеткі замежных устаноў Рэспублікі Беларусь за мяжой на 1999—2000 гады, да канца 1999 года плануецца адкрыццё беларускіх пасольстваў у Швецыі і Венгрыі, у 2000 годзе — адкрыццё генконсульстваў Рэспублікі Беларусь у Гамбургу, Мюнхене і Стамбуле.

Як паведаміў начальнік Упраўлення Еўропы МЗС Рэспублікі Беларусь Андрэй Еўдачэнка, сёння ў 17 еўрапейскіх дзяржавах працуе 16 беларускіх пасольстваў і 4 Генеральных консульствы краіны. Паколькі бліжэйшым часам адбудзецца пераезд пасольства Беларусі ў ФРГ з Бона ў Берлін, у Боне застанецца аддзяленне пасольства. Паводле слоў А.Еўдачэнкі, гэта звязана з тым, што зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія займае вядучую ролю ў развіцці беларуска-германскага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, а таксама таму, што шэраг федэральных міністэрстваў і ведамстваў Германіі па-ранейшаму застаюцца ў Боне.

Развіццё сеткі замежных устаноў, як адзначыў А.Еўдачэнка, звязана са значнымі фінансавымі выдаткамі, "таму гэты працэс ідзе паступова з улікам існуючых у краіны магчымасцяў". Кіраўнік упраўлення падкрэсліў, што перад новымі і ўжо дзеючымі замежнымі ўстановамі ў якасці асноўнай ставіцца задача максімальна садзейнічаць развіццю гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, дзелавых кантактаў і аказваць магчымую дапамогу беларускім суб'ектам гаспадарання ўсіх форм уласнасці ў прасоўванні беларускіх тавараў на замежныя рынкі.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

Картинки с натуры

## "Криминальное" детство

Почти девять часов вечера. На улице темно. Возвращаюсь домой. Рядом с соседним домом подбегает ко мне маленькая девочка. Спрашивает, в какой подъезд иду. Я ей объясняю, что живу не в этом доме. Она, прижав ручки к груди, растерянно говорит: "Что же мне делать, мама позвала домой, а я боюсь одна в подъезд заходить. Вчера смотрела по телевизору "Криминальную хронику", там показывали, как в подъезде дядю убили. И крови много было...".

Ребенка я из рук в руки передала смущенной маме. Они живут на восьмом этаже. Пешком, понятное дело, девочка не поднимается. Лифт в этом доме останавливается на каждом этаже. Несложно догадаться, какой ужас доведется пережить ребенку, когда на одном из этажей лифт откроется и она увидит перед собой пьяницу, решившего отправиться за очередной "добавкой" в близлежащий ночник. Хорошо, если случайный встречный окажется смирным и не станет излагать маленькой девочке свои взгляды на жизнь. Но часто-то ведь бывает наоборот...

По телевизору в последнее время действительно показывают слишком много насилия, крови, вспоротых животов и прочего всего такого "жаренного" и вывернутого наизнанку. Боевики, леденящие сердце сериалы типа "Пси-фактор" и "Секретные материалы", "Криминальная хроника", "Дежурная часть", детективы. От них порой невозможно оторвать детей, для которых фильм не про убийство — неинтересный фильм...

А когда-то ребятня росла на сказках. Хороших добрых музыкальных фильмах, в которых снимались известные актеры. "Буратино", "Три орешка для Золушки", "Садко", "Три толстяка". Теперь их почему-то почти не показывают. Не берусь, конечно, утверждать, что у прошлых поколений было уж совсем сказочное детство, но что не такое "криминальное", так это точно...

**Марина КОКТЫШ.**

## Чакаецца рост платы за электраэнергію

У Беларусі будзе праводзіцца штоквартальная індэксацыя тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва. Даручэнне Міністэрству эканомікі ажыццяўляць такую індэксацыю ўтрымліваецца ў спецыяльна прынятай пастанове Савета Міністраў. Да канца верасня г.г. Мінэканомікі павінна распрацаваць адпаведнае палажэнне аб індэксацыі.

Як адзначана ў пастанове, гэта робіцца "у мэтах набліжэння тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва да ўзроўню фактычных затрат". Цяперашнім часам, паводле звестак БелаПАН, насельніцтва аплачвае толькі каля 15 працэнтаў сабекошту электраэнергіі, якую выкарыстоўвае. Беларусь не ў стане забяспечваць сябе электраэнергіяй уласнай вытворчасці і змушана набываць яе ў суседніх краінах. Запазычанасць краіны па гэтым артыкуле імпарту дастаткова вялікая. Напачатку жніўня 1999 года доўг Беларусі за электраэнергію, пастаўленую Расіяй, складаў 40,89 мільёна долараў ЗША, Літвой — 66,81 мільёна долараў ЗША.

**Сяргей СНЕГІН.**

